

**АКЦИОНЕРНЫЙ КОММЕРЧЕСКИЙ БАНК "ПОИСК"**

***ПРЕДЛАГАЕТ СИСТЕМУ ВАЛЮТНОГО ОБСЛУЖИВАНИЯ***

- трансфертные и инкассовые операции
- открытие и подтверждение аккредитивов
- принимает вклады от населения /минимальный размер 100 долларов США или эквивалент в другой СКВ/ с выплатой дивидендов: 6 месяцев -- 3% годовых, 12 месяцев -- 6% годовых
- покупает дорожные чеки "Amerikan Express", "Visa", "Master Card" и другие
- кредитует клиентов банка, занимающихся экспортно-импортными операциями в иностранной валюте
- покупает и продает наличную и безналичную валюту

**Адреса банка и его филиалов в городе Минске:**
**АКБ "Поиск", г.Минск, ул.Калиновского, 72-А, тел.639-333**
**Филиал "Академбанк", г.Минск, пр-т Ф.Скорины, 66, тел.394-810, 394-897**
**Филиал "Энергобанк", г.Минск, ул.Ф.Скорины, 18, тел.338-383, 338-308, 325-512**
**Филиал "Лучбанк", г.Минск, пр-т Ф.Скорины, 95, тел.661-775**
**Филиал "Бытбанк", г.Минск, ул.Ольшевского, 10, тел.546-912**

*Управление внешнеэкономических связей акционерного коммерческого банка "Поиск"*
*Проводит конкурс на замещение вакантных должностей*
*-- ведущий экономист*
*-- экономист /со знанием английского языка/, 2 человека*
*Телефон для справок 639-333*

---

## СУПЕРАВТОМАТЫ ДЛЯ СТИРКИ БЕЛЬЯ

## *ВЯТКА-16* *ВЕСТА-21*

### СТИРАЮТ БЕЗ ВАС, ЛУЧШЕ ВАС, БЫСТРЕЕ ВАС

*ВЯТКА-16* знакома многим. Это хорошо зарекомендовавшая себя 16-программная машина давно завоевала рынок.

*ВЕСТА-21*, созданная совместно с английскими специалистами, – новинка с расширенными функциональными возможностями. У нее 21 программа.

И *ВЯТКА* и *ВЕСТА* готовы работать везде, где есть электричество и водопровод. Вам нужно только загрузить белье, добавить моющие средства, набрать нужную программу и... забыть о стирке! Каждая из этих машин сама подогреет воду, замочит, постирает, прополощет, подсинит, подкрахмалит, отбелит и выжмет до 4,5 кг хлопчатобумажного белья или 2 кг объемных тканей. Автоматическая прачка деликатна к шерсти, шелку, синтетике.

ВЯТКА и ВЕСТА в доме --
это сотни часов освобожденного времени ежегодно,
не утомленная "большой стиркой" жена, ухоженные дети и довольный муж.

Обе машины можно установить и в ванной комнате, и на кухне.

*ВЯТКА и ВЕСТА* – надежные и безопасные автоматы. Они потребляют вдвое меньше электроэнергии, дорогих моющих средств и воды, чем машины с ручным отжимом белья.

Сервисные фирмы, обслуживающие стиральные машины *ВЯТКА-16* и *ВЕСТА-21*, организованы во всех крупных городах России и СНГ.

**Условия поставки: повагонная отгрузка по 192 шт.**
**Отпускная цена с завода: "Вятка-автомат-16" – 140 тыс.руб., "Веста-21" – 200 тыс.руб.**

КИРОВСКАЯ ПРОИЗВОДСТВЕННО-ТОРГОВАЯ ФИРМА "ВЕСТА"

Vesta

610035, г.Киров, Производственная, 24
Телефоны: /8332/ 27-75-38, 27-14-71
Факс: /8332/ 25-74-94
Телетайп: 172155 АСТРА

---

РЕАЛИЗУЕМ АВТОМАШИНЫ "СУПЕР-МАЗ" различных модификаций; ЗАКЛЮЧАЕМ ДОГОВОРЫ НА ПОСТАВКУ А/М "МАЗ" любых моделей с оплатой счетов в г.Москве.

*Тел./факс: /0172/ 58-57-63.*

---

Организация приобретет кислоту лимонную, сахар.

Тел./факс 23-48-45

---

## МП "Спартак" реализует:

- ❖ экскаваторы ЭО 3532-А1 на базе МАЗ-5337 с телескопическим рабочим оборудованием;
- ❖ а/м МАЗ-5551, а/м МАЗ-53371-029,
- ❖ а/м МАЗ-54329, п/п МАЗ-93866.

**Оказываем транспортные услуги на а/м ГАЗ-3307 /грузо-такси/.**

*Контактный телефон 346-882, факс 347-458.*

---

## ДЖЕНТИ

### широкий выбор оргтехники:

- * персональные компьютеры АТ 80286/287 АТ 80386/387DX;
- * настольные и карманные бухгалтерские калькуляторы CITIZEN;
- * системы наблюдения в комплекте с видеокамерой и монитором;
- * престижные перьевые и шариковые авторучки PARKER;
- * заправляем картриджи к CANAN FC-2 и ремонтируем любую оргтехнику.

*Обращаться: г.Минск, ул.Платонова, 38, фирма "ДЖЕНТИ".*
*Р/с 1467384 в АКБ Белбизнесбанк, г.Минск, код 153001/739.*
Тел. /0172/ 395-397, 394-241.

---

## Поликлиника БелВАР

- ✱ Восстановление позвоночника, суставов и мышц за короткий срок.
- ✱ Прием ведет ученик Касьяна и высококвалифицированный массажист.
- ✱ Лечим тяжелые радикулиты, остеохондрозы, сколиозы, отложение солей в суставах.

*Тел. 39-97-79*

---

Закупаем оптовые партии товаров народного потребления с лицензией на Казахстан.
*Контактные телефоны в г.Могилеве: /8-0222/ 22-22-39, 22-79-16.*

---




---

**Покупаем МАЗы. Арендуем или купим емкости для топлива.**
*Тел. в Минске: /0172/ 39-42-41, 39-52-47.*

---

ОРГАНИЗАЦИЯ ПРОДАЕТ безналичную и наличную СКВ и латвийские латы за безналичные российские или белорусские рубли. ПОСТОЯННО ПОКУПАЕМ импортные продукты питания с лицензией.
*Тел. /0172/ 20-05-36.*

---

## Новые автомобили ВАЗ

**только по безналичному расчету**

**Сегодня в наличии:**

**ВАЗ-21043, -2108, -21083, -2109, -21093, -21099, а также "Шкода-Фаворит LX"**





НОВ & К

Производственная коммерческая компания "НОВ & К"

*Наши телефоны: /8-0172/ 58-78-28 /8-0172/ 58-78-29*

*Наш адрес: Минск, ул.Притыцкого, 60/2 гостиница "Алгоритм", к.137*

---

Для предприятий и граждан по ценам ниже рыночных организация реализует со склада в Гомеле:

- ▼ новые автомобили М-2141 /Алеко/;
- ▼ лобовое стекло "триплекс" для а/м ВАЗ;
- ▼ 12-разрядные микрокалькуляторы;
- ▼ лобовое стекло "триплекс" для а/м СУПЕР--МАЗ.

*Форма оплаты безналичная. Поставка немедленно.*
*Тел./факс/: /0232/ 53-73-72.*

---

Организация купит СКВ, российские рубли *за безналичный расчет.* Тел. /0172/ 20-05-93, 20-08-95а.

---

**ОРГАНИЗАЦИЯ РЕАЛИЗУЕТ:**

- ✱ краны гидравлические КС-25 г/п 6.3 т на базе ЗИЛ-130;
- ✱ грузовые автомобили: ГАЗ-33073 с тентом, ЗИЛ-130 бортовой.

*Тел.: 39-51-04, 39-59-39.*